ВАЛЯНЦІНА АКСАК

# Капліца



**Вершы**



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1994

## ПРЫСТУПКІ

***Трэцяя***

Кволяцца тонкія целы васковак,
цвыркае кнот, як малы верабей,
а кандэлябры нянаскае коўкі
бліскаўкі шлюць у праёмы дзвярэй.

Там,
за парогам празрыстае проймы,
часу цячэнне мяне забярэ,
зноў у свабоднага неба абдоймы
моўчкі ўвайду,
як сышла з яго ў грэх.

Бліскаўкі шлях усцілаюць усцешны,
радасць вяртання праменіць вакол,
вось ужо ёсць і прагалы ў падстрэшшы,
момант —
ды гойстрага скіпетра ўкол.

Прывід? Ці наў? — паўстае на дарозе.
Бачу пад пыльнікам схованы прэнт,
грузнае цела ў страшэннай знямозе
йдзе да мяне,
нібы неруш арэ.

Збоч ад яго
хтось знаёма-прывабны,

у мройнай паставе —
цярпенне вякоў,
рукі абвіслі лазой вінаграднай,
толькі па шчоках —
ці слёзы?
Ці кроў?

Хто вы?
Й чаму,
як пякельныя свечкі
хцівую ноч спрабавалі прагнаць,
дзень высвячаючы
ў шлях старасвецкі,
вартай паўсталі
на выхадзе з дна?..

### *Дзевятая*

Згоркнуў дзень,
загарэлася пасма заходу,
прыгаломшаны грак пракружляў і прапаў,
хмара йдзе,
крывянеюць парэзы з-пад споду,
адзінока ўціскаецца
ў поплаў капа.

Лёгкі ўзлёт —
і прыкутыя ветрам да неба
галубіныя душы
на фоне дажджу,

з прыбудоўкі пад стрэху — дзяжу,
хай не льецца вада без патрэбы
гніллю ў плот.

Кволы згук —
расплюскалася з кварты гарэлка,
памінальныя кроплі
плывуць у прыпол,
і пустой зіхаціць побач з чаркай талерк
спрытных рук
больш не выпусціць
стоўчаны дол.

### *Саракавая*

Бачыш,
мой любы,
над полем бялее
воблачка дзіўных абрысаў.
Соннага збожжа салома старэе,
вецер сціхае
і зноўку шалее,
дождж,
далей снег пацярусіў.

Воблачка вісне
над месцам адзіным,
вецер не даў з ім управы.
Тыя,
што ў жыце,

рудыя ўжо травы,
а на паўзмежках пракосы атавы,
вэлюм на іх
з павуціны.

Бачыш,
мой любы,
у мроіве белым
воблачка прагнага пляма —
быццам азонная чорная яма
ўсмоктвае ў прорву
чароўныя спевы
гусляў тваіх нечуваных.

Я ўжо стамілася,
чуеш,
мой любы,
быць нерухомай,
як час,
аблачынкай.
Цела,
даўно набрынялае згубай,
ты ўжо забыўся, напэўна,
мой любы.

Кінь жа ў аблокі
кахання пясчынку,
і Херувім
табе
Вечнасць
пратрубіць.

## СПРОБА РАССТАННЯ

Госпадзі
ў згодзе ўзгадованы злыдзень
угоддзі гасподы ў гандлярню аддаў
споднее
спод
і спадзеў на дабрыдзень
споведзь кароткая
доля
ўдава́

ўдовіна доля
здаволіцца згадкай
пра ўдосталь спатолены
шчасцем нябыт
пацеры дзён знітаваны парадкам
спорна адораны слёзьмі
клады

ў покуці
зморшчаны цень кандэлябры
воску рака
адплыла за парог
ладан
лампадны курodым
гірлянды
звядлены
відма не бэсціць нутро

дбайна ўлагоджана лёкаем Леты
гонар згубіла
змяніла дакор
на ўсёдаравальнасць
каханне
каметай
забыты засмяг
парафіну дэкор

згінь
спакушальнік
з начэй падаянку
ты ўсю ўжо спагнаў
і мой згорбіўся дзень
дай хоць на захадзе
звесіць фіранку
глянуць на
Тóга
хто воддаль
ідзе

# ДЗЕНЬ МАІХ НАРОДЗІН

Пуд.
Ёсць дзень такі па святцах.
Зямля яшчэ нярушаная спіць,
пралесак толькі шэрагі пры пні,
з якога сок смяротнага вар'яцтва
бяжыць у роў.
Там з крыгамі сваяцтва
вядзе камель,
якога хтось вазьмі й сапхні
у гэты вір вясновага ўсёядства
далей ад пня,
з якога сок нікому не спыніць.

А сок салодкі,
людзі шчэ не зналі,
што дармавое гіне між балот,
шчэ кожны дбаў
пра свой натомлены ўмалот,
і бабы кужаль шчэ танютка пралі,
і пах пялюшак гойдаў калаўрот.

І абразы з-пад ручнікоў свяцілі,
хоць захад быў ужо ярчэй за ўсход,
і той вярбой,
што ў Вербніцу свянцілі,
ад злога вока мой адпудзілі прыход.

І баба Наста кужаль роўна рвала,
каб роўна ўсход мяняўся на заход.
Яна не знала,
ой, яна не знала,
што ўсе прыкметы збэрсае прыход
у мае думкі госця з мёдным жалам,
які мне лёс працяцьме навылёт.

І буду я баяцца зыркіх зорак,
што свецяць мне з апоўначы да дня,
і жах жагнаннем не зганю на золак,
і толькі прысак наўпрасткі разорак
мне шлях асвеціць да жывога пня,
з якога сок адпудны пад узгорак
цячэ праз ноч да сённяшняга дня.

## НА МАТЫЎ
## РАДЗІННАГА ПАДАННЯ

Вісіць над местам волкая аблада,
а ў месце дрогка кволіцца жыццё,
і ў тое места мне прыйсці панадна,
зямную ўладу доўжыць над быццём
сівой душы прайгранага варага
калісьці ў кошт бязрызыкных гульцоў.

Вісіць-вісіць трывалая ўладарка
карціны тлену ў месце небыцця.
На ўбор — нявеста,
тварам — перастарка,
а стан віхлясты здольны на працяг
зямной пакуты новых недавяркаў,
якім без ліку множыцца наўсцяж.

Вісіць аблада кольцам выкшталцоным,
спаруды праху дбайна сцеражэ
ад гойстрых промняў і нязвыклых тонаў
чыіхсьці слоў у рытме Беранжэ.
Іх Менск не чуў,
не чуў Стакгольм рачоны
у слове наскім шматназоўным PZECZ.

## СТРАТА ХАТНЯЕ КВЕТКІ

А сёлета каляднік не зацвіў.
А мо яго пастой цяпер цвілы,
ці то энергія ад сцен ідзе благая?
Былых гаспадароў ні словам не благаю,
ды ўсё ж каляднік мой
у доме іхнім не зацвіў.

А ў кветцы гэтай сонечны прыліў
да маіх вокнаў і душэўных сіл
на Ко́ляды ў сутонне прыплывае,
як заміж свечак яе знічкі прамаўляюць,
што хутка ўжо
смугу ўскалыша Серафім.

А сёлета каляднік не зацвіў.
Прыкмета гэтая мо й не зусім благая,
бо ўжо й Грамніцы капяжом адгралі,
і пост на гурбы шчыранька праліў
густыя кроплі мясаедных він,
і ўжо вясну дзяўчаты прагукалі,
і ўсё ж пакутніцкіх зазімкаў сорак —
цяжкі́ мне напамін.

Але сябе ўзнясу на падваконца,
каб упусціць у змрочны покуць сонца.
Няхай жыве радзінная нязграбнасць
і вольнага падзення радасць!

А да Вялікадня мне новыя каралі
каханы папярэдне падарыў,
і мо ад гэтага ўсе іншыя дары
кудысьці з гандлявальняў прападалі
з Піліпаўкі.

І носіць па двары
вялізны грак на клылах карані,
якія сок у кветкі не пагналі.

# ШЧАДРЭЦ

Каляндар на стале
і васкоўка,
з Нямеччыны родам,
кандэлябра не лье
слёзы з хваляў
глінянага споду.

Дуйка вэлюмы ўе
і на шыбы
святочна чапляе,
па засіненым тле
неба ўзорнага
месяц гуляе.

Зазірае ў вакно
да мяне
і да іншых самотных,
запаляючы кнот
свечкі.

Сэрца,
ўспыхні само ты...

## ГРАМНІЧНАЯ СВЕЧКА

Цельца зусім растапілася,
выліўся воск у падспод кандэлябры,
голасам роспачы з кліраса
полымя творыць сусвет непаглядным.

На ацалелай кнатовінцы —
высілкі, вартыя людскай пашаны, —
цень, як жыццё на саломінцы,
вогнік ратуе.

Нязгасным —
асанна!..

## ВЕРБНАЯ НОЧ НА КАЛЬВАРЫІ

Калее Кальварыя.
Шклом выкшталцоным
кусты і капліцы
над схованкай целаў
усцелены Мараю.

Зацемнена зарыва,
толькі ігліцы
апалых зарніцаў
абралі ахвяраю
крыж прыканцовы
і цемечка ценю.

Увенчаны цернем,
пазначаны Трасцаю,
цень прызначэнне
спаўняе пад нашчаю
поўняй алтарнаю.

Калее Кальварыя.
Курчацца ў лужыне
сцятыя ўдала
цяжкім амбалам,
загойстраным сцюжаю,
галоўкі канваліяў.

Калее Кальварыя.

## УСЯНОЧНАЯ ЗГАДКА

Ахвяра праведнага Авеля
апоўначы ў Вялікдзень выплывае,
то поўня таямніцы адкрывае,
прастору ад зімы рыхтуе травеню.

Сахóр, уткнуты у брата, тоесны
цвікам, якія ўдоўбнены жыдамі
ў цялесны цень Таго, каго жадала
каменне бачыць
via dalarosa.

Такія ля крыжа на тупкай вуліцы
бабулінай навукі ўскрэслі строфы.
Сляпы ліхтар да сёння прыскам
вугліцца,
падтрымлівае дбайна ўзор
Галгофы...

## ЮР'Я

Селязіну знікла квецень з клёнаў,
тое мгненне цераз год — ці прычакаць?
Зазвычаеныя валадараць тоны
ў гаспадарстве ўвішнага шпака.
Густалістую ўтрапёнасць траўня
перайначыць — Божа, барані!

Бледнатвары Юры на кані
гронку бэзу, можа, мне працягне?..

# ПАНЯВЕРКА

Хворы храм.
Застудзіліся грудзі ў амбона,
кашаль бухае ў царскую браму
наўзлом.
Словы споведзі пройма адносіць,
і гром
развінае грахі той Мадонны,
за якою Абрам
змог прычасце прыняць
і ўсясветна ў пашане распяць
Немаўлятка —
за грэх
першародны.

## МАЛІТОЎНІК

Так доўга да гэтае кніжкі
ішла ў небыццё душа...
Быў Голас глухі, няблізкі,
як да Полацака Уша.
Над ёю мая Нясвіжчына
не знала, што мшу пяюць
на беразе тым, дзе нішчылі
Сафію, каб болей не чуць
ліцвінавых спадкаемцаў,
якія ў царовым агні
за ласку маскоўскую ўмерці
не мелі ахвоты ані.

Так доўга да гэтае кніжкі
ішла праз нябыт душы...
Збавення праменьчык прабліскваў
у спевах новай імшы.
Яе ўжо спявалі мы разам
у летапіснай Літве,
покуль царовым указам
не знішчылі родны напеў.

І вось незнаёмым птахам,
шляхам з Еўропы старым
кніжачку «Божым шляхам»
прыслаў мне Боскі Рым.

## УНІЯЦКАЯ КАПЛІЦА

Царква
паэтаў і самотнікаў,
што ў прынцыпе —
адно і тое.
З вакенца
позіркам адлётніка
глядзіць на свет
дзіця малое.



Святарства — не сваё.
І словаў бляклы водсвет
спаўзае з даху ўніз,
як промні з ледзяшоў,
і з іх мы не саўём
карункаў ладу ў прошве,
рассыпаны іх спіс
не злучым роўным швом.
Між храмамі хаджу,
пакліканая спевам
«Te Deum laudamus»*
й *«Μαχαριοι οι πραεῖς»***,
і цяжкім стаў самшыт
крыжа з Ерусаліму,
які маёй душы
прыслаў патлаты лірнік.

---

* «Цябе, Божа, услаўляем» *(лац.)*.
** «Шчаслівыя лагодныя» *(грэц.)*.

* * *

Госпад знае думак панаванне,
а ў малітве — толькі ўдзякі словы
за прылівы ўмілажальнага кахання
мець ад Тога,
хто сваю ахову
шле на кожны ўсход майго адхлання
і на захад дня,
што ў пасмах прысветаў
усходу...

## ПАНЕНСКІ ВЕЧАР

Разбіты збан...
Аскелепкі,
як здані,
разбегліся
па цёмных
закутках...

Радзінную нязграбнасць ганіць,
таймуючы раптоўны жах
здарэння невыгоднага да ночы,
не бачачы ў тым знак прарочы?..

Блюзнерыць,
паглядаючы на покуць,
з чаканнем,
што адтуль калматы скочыць,
збярэ збанок,
між рожкамі
паставіць
і дасць зарок
тут баль свой
больш не правіць?..

Маўляў, збанок
збянтэжыў марна знакам,
над ім вянок
із руты шчэ не плакаў.

Калі й разбіўся ён у гэты вечар зборны,
то новы дзень усцеле цуд-узорам,
не тым, дзе мята ўсё звівае туга,
нібы сядло для ездака папруга,
а тым, дзе ружы знак на небе зорным
спаміж лілеяў белых сцёгнаў.

А раніца мудрэйшая за вечар:
таемнасць зліжа промень свежы,
здранцвелым думкам шлях прарэжа,
не бавячыся, выспеліць выснову
пра прызначэнне годнае абновы.

Лілея й ружа
крыжам
не спляліся,
збанок ад
дружак
з мяты вялым лісцем
аскелепкамі
выслаў
цвёрды
дол...

## ПАГАНСКІ ШЛЮБ

Сцішаны шоргат пажухлай лістоты,
мятлік няўсцешны ляціць на агонь,
шорсткая шэрань замест пазалоты
фразай шурпатай забэрсвае скронь.

Збродлівы вецер гуляе па полі,
спраў у бары ў яго покуль няма,
значыць, без сведкаў мы тут
пасваволім —
покрыва ладзіць нам Лада сама.

## ВЕКАВУХА

Вядлее кава,
цямнее настоены трунак,
на небакраі
натурыцца ўскрэснуць святло.
Фалдай ядвабу
аздобіла змрочны прытулак,
крэскай сярнічкі
прывечу раптоўных паслоў.

Мабыць, татараў і тых,
бо ў сям'і асядалі,
так не баяліся
продкі ў маёй старане.
Тыя татары
намеры ўсе чыста гублялі,
шлях адмахаўшы
такі, што сам чорт не міне.

Гэтыя ж блізка.
Бадай што, ад сонца — да сонца.
Божа, і веры, —
ну трэба ж? —
мы з імі адной,
хоць наша міска,
як спод парцалянны японца, —
поўная манны,
а ў іхняй даўно смердне гной.

Толькі чамусь
яны клічуць мяне ў сваю хату,
а гарбуза,
як на тое, ў запасе няма.
Сернік патух,
не прывечу запозненых сватаў,
значыць, і дзверы
не буду я ім адчыняць.

## НОВЫ ГОД У ІСЛАЧЫ

1

Нібы з шэраню твар.
А празрыстыя вочы — ільдзінкі,
што скаціліся з тонкіх, шурпатых хваін.
Ты сініцай галоднай
за шыбай чужою не дзінькай —
гэты дом дзеля ўсіх,
ды не месца нам тут удваіх.

Я прыеду сюды,
як гарластыя ўсе адгасцююць,
растрывожаны вулей прыдбае спакой,
і натоліць самотай
любімую сцежку начную,
і зашклёныя вочы
не стрэнуць мяне за ракой.

2

Пярэстае неба, прарэджаны хвойнік.
Кручастая рэчка, прыземлены дом.
Не ведаю я, ці дурэюць тут промні,
заспеўшы цябе за груvасткім сталом.
Са мною яны жартаваць не хацелі,
схаваўшыся ў хмарах, сядзелі цішком,

ці мо пaглядалі, як я на пасцелі
чытала Пфляўмбаум запознены том.

Сваю выпадковасць у гэтай фартэцы
трываць не хацела. I нават смала
настрой старагодні не ўмела аспрэчыц
і дровы ў каміне сабой заліла.

## ІСНАСЦЬ

Папіць віна,
і здзейсніць акт кахання,
і сном глыбокім думы злагадзіць
да той пары,
як месяц сумны гляне
на цела белае
ў любімай позе
«ніц».

Кальне святло
люмінесцэнтным ззяннем,
ці, можа, вецер з форткі прабяжыць
скразною проймаю
дзвярэй вакзальных
і стане коўдра
бы з травы-яжы.

Памкнецца ноч
кудысь за край дзяржавы,
крысо сутоння сілюся схапіць,
каханак наўздагон шле згук картавы
і нішчыць відму
сіплым словам
«спі».



Паміж Каляд — раптоўнае прадвесне.
Цяпло звіло прывідную ману,
і я паверыла адліжнай песні,
што сяродзім'е выльецца ў вясну.

Марозы млелі, гурбы раставалі,
снягі сышлі, і дождж адмыў асфальт,
а на Вадохрышча з вадою талай
знак прынясло завеям завываць.

Лісты-ўварванкі клаліся ў сумёты,
ляднілі відму, збэшчвалі мой жар.
І неўпрыкметку, незнарок, употай
стаў халадзіць нядаўні твой пажар.

І застудзіў за снежань і за люты,
за неспажыты наш калядны час,
але адлігу, бурамі распнуту,
спазнала сэрца, хоць і промень згас.

## АПОЎНАЧЫ

Здаецца, час. І ўжо абраз бабулін
высвечвае праменняў дыямент,
і дзеці з кацянятамі паснулі,
і лад паміж рандолевых шарэнг.

І звольнена з палону спадзяванка
на тое, што апоўначы анёл
загляне ў вочы скрозь
празрыстую фіранку
і ў вуснах выпесціць чаканы плён.

І паплыве ручай нязвыклых словаў
у твой глухі, з надзейнай вартай дом,
і ты ў парыве страсці невядомай
чужыя вусны высушыш нагбом.

# НЕСТАСУНКІ

За што я люблю цябе, дом, пад назоваю Ісл ач?
Няйначай, за тое,
што я — не з табою —
нічога не значу.
Бо значнасць мая —
гэта сотня, мо з гакам, паперак,
сплаціўшы якія,
са мною ўжо робіць, што хоча,
вялізны нямко-вурдалак,
мяно каму звабнае —
Менск...

А ты:
рассцілаеш настольнік, як страўнік мой
прагне здабычы;
вытрасаеш з валізаў абвесткі і ўлёткі
пра заўтрашні збоісты мітынг;
адкідаеш завалы з усіх мурашыных дарогаў;
высвячаеш герояў нязнаных, забітых,
з цямрэчы пражытага мною ўжо часу;
апускаеш падэшвы мае ніжай ветру і хвояў;
выпускаеш дзяцей маіх з нерату,
звітага ўдала
дзеля нерасту лжэідэалаў...

Чаму ж я так скрушна кружляю
вакол тваёй псеўдафартэцы?

* * *

Беспрычыннае свята,
як смех састарэлай какоткі,
дзіўна бачыць і чуць,
калі сам ты адмалку стары,
і ўзвычаена скрозь
твая самавітая хата,
у якой нават коткі
кожнай пятніцай
дораць мышам перадых.

* * *

> І кінулі яму гусі па крылцу,
> па перцу.
>
> *Беларуская народная казка*
> *«Ванечка і ведзьма».*

Аркуш за аркушам — рэзкім паўкрутам,
потым яшчэ, і яшчэ, і яшчэ
перка за перкам — і крылы ўжо прутам.
З аркушаў-перкаў няспынна цячэ
кроў — мая мроя — на крохкі трыпутнік,
што разам з перкамі ў моцнай руцэ
гіне пакорліва і ўкрай-пакутна,
бо не паспеў мне спяяць, што хацеў.

# НА ВЫСТАВЕ СЯРГЕЯ ЦІМОХАВА

Сполахі водсветаў мякка спляліся
над ацішэлым сутоннем,
фарбы твайго шматгалосся зліліся
ў водгулле ціхіх сімфоній.

Цесна ім, тлумна ў казённым пакоі,
просяцца вонкі, ірвуцца
у далячынь, у тваё Прыдняпроўе —
шырака там разгарнуцца.

І задзівуюцца познія госці
сполахам ззяння над полем:
як хараство тут знайшлося такое?
Ці то зарніцамі ўспыхнулі косці?
Ці то мастак насваволіў?

## СУСТРЭЧА АДНАКУРСНІКАЎ

Рынга Стар —
гэта наш запавечаны востраў.
Мы — на беразе,
хлусяць ізноў маякі.
І — пасля, як і — да —
пад артыкулам шостым
частка шостая свету нязменная,
вокам куды ты ні кінь.

Срэбрам тканыя скроні,
і душы, як лунь, пасівелі,
і туга ўжо ў вачох
у дзяцей, як і ў нас.
Карабель не скранаецца
з рыфавай мелі,
мы танцуем «Квік стэп»,
хоць даўно ўжо «Металікі» час.

## А. М. (АЛЬ) СУР'ЁЗНЫ ВЕРШ

Алег, ты памятаеш Полацк —
завулак з назвай штосьці ад млына...
За хатай — дзяцеліны поле...
Вы абазналіся, жанчына.

Алег, ты памятаеш Полацк?
За брамкаю твая шыпшына
так часта рукі мне калола...
Вы нешта зблыталі, жанчына.

Алег, ты памятаеш Полацк —
канапа, з алянём карціна,
за печкай калаўрота кола...
Няўжо вы там былі, жанчына?!

## ГОД ЗМЯІ

> ... А та, что сейчас танцует,
> Непременно будет в аду.
>
> *А. Ахматава*

Мінулы год па-ўсходняму
страчаў і ты ў зялёным,
у тон віну заходняму —
агат вачэй здзіўлёных.

Падсвечана салатавым
адценнем майго келіха
усмешка хітраватая,
і з вуснаў — джалы кепікаў,

што ў Новы год старая
краўчыха, зноў падпітая,
калёры пекла й раю
ва ўборы маім зблытала.

## ВЯСНА

Чэрава наплечнай візітоўкі
прагнула крухмальнае хусцінкі,
фарбы маціцовай ды пухоўкі
да крэмавае пудры, ды карцінкаў —
разглядваць між сумотных візітантак,
«Эліпсу», «Салéму» ды калготкі —
на выпадак нязграбнага каханка...

А сёння — згаладалае —
пракоўтнула нататнік.

## ЧЭРВЕНЬ

Пахне мора прыдзвінскім аерам
і расою нясвіжскіх палеткаў.
Ну якім гэта можна манерам
цэлы месяц пражыць тут улетку?

Прыляцець, бы шукаючы скарбы,
за чужыя трыдзевяць ўладанняў,
быццам дома шыкоўныя барвы
пагублялі заходы й світанні?

Там жа бацька спяшае з касою,
увіхаецца з гра́блямі маці —
не паспець ім за спелай расою
без мяне на густой сенажаці.

Не даруюць і не давяраюць
маім гэткім пакутам за светам,
што любоў сваю тут правяраю
і высновам не веру паэтаў.



... а мне хацелася заўсёды ўласнай хаты.
Такі вось аднасобны інтарэс.
І каб уранні церлася трава аб пяты,
а ўвечары ў вакно заглядваў бэз.

Бацькоўская?
У ёй я — толькі госця,
хоць і радзілася за печкай на палку.
А час жаданне даўняе не спросціў,
вось толькі нервы церпяліва склаў у куль.

Такім суквеццем спрамянёных мрояў
жыве душа пра собскае жытло...
Няўжо ж мяне так Бог магутны скроіў,
што роднае набуду
толькі
ў дол?..

## ПРЫВІД

Калі ў прадонне доўгіх дзён
мой погляд упадзе замглёны,
загойдаецца люстраванне клёнаў
і выплыве знаёмы маладзён.

Густога голасу гучанне
мне нагадае шлюбны звон,
і бомы срэбнага вянчання —
звычайнай музыкай здавён.



Мая душа ў скарбонцы цела —
і ні вакон, і ні дзвярэй.
Ніхто не бачыў, як трымцела,
калі агонь яе твой грэў.
Ніхто не чуў, як колкі холад
працяў яе эфірны стан,
як наталіўшы плоці голад,
ты прашаптаў:
«Кахаю здань...»



... а чарговы падман?
Ён ужо, як калісь, не хвалюе,
толькі лёгкая крыўда
— без болю —
на лёс залягла.
Але маю такую пілюлю,
ад якое сплыву
белай хмаркаю
за далягляд.

Там —
ні лёсу,
ні крыўды,
ні самага чорнага зману.

Там —
зямныя пакуты
не маюць ніякіх адзнак.

Пра цябе я
— там —
думаць нарэшце не стану.
Буду побач плысці,
то ўліюся ў твой цень,
нібы так і задумаў
Мастак.

## ОДА КУХНІ

Гаршкі, збанкі і хуткаваркі.
Патэльні, скваркі і цыгаркі.
Сурвэты, келіхі і лыжкі.
Газеты, венікі і кніжкі.

Пруткі, карункі, выцінанкі.
Нудота, згадкі, спадзяванкі.
Рэцэпты, слоікі, варэнні.
Куродым, сажа, адрачэнне.

Напоі, рыфмы і гарбата.
Збанок палыну, кварта мяты.
Капуста, дранікі, мачанка.
Вячоркі, поўначы, світанкі.

Люстэрка, кандэлябра, кава.
Чытанкі, спеўкі і выстава.
Канапа, зэдлікі, буфеты.
Сустрэчы, слёзы і санеты.

Прымальня, лазня і ядальня.
Вітальня, пральня, спачывальня.
Спякота, холад, кроплі поту.
Гвалтоўня, рабства, адзінота.

Гасцёўня, спальня і святліца.
Камора, пограб і вязніца.

Катоўня, замак, пастарунак.
Маё сіло і мой ратунак.

Ты — рэдкі гонар мой і сорам.
Маё празрэнне і дакора.
Ты — мае лекі і атрута.
Ты — мая радасць і пакута.

Ты — мой алтар, мая малельня,
мой храм адзіны і пустэльня,
дзе я Ўсявышняга маліла:
не стань жа ты маёй магілай!

## УСПЕННЕ

Кружляюць жоравы,
туга чырвоным лістам
на дні ружовыя
зляцела.

Строма стыне выспа,
і вір пражорлівы
глядзіць задзірыста
на цела,
шлючы з прадоння літасць.

А ў німбе жвірыстым
карчы скрыжованы,
старчак з сярэдзіны.
Ён цэляй
абраў мае маністы.

Кружляюць жоравы,
дзень Божы цэлы
пяюць курлыста,
каб я заглeдзела
між іх
абраз
Прачыстай.

## БАГАЧ

Дажынкі пахнуць дажджамі
і рошчынай свежаю ў дзежцы,
за жніўнем сваты прыджгалі,
гарбуз пакаціўся па сцежцы.

А бохан круты і крохкі —
раскроіць нельга на чвэрці,
плывуць па шчоках кроплі,
брудны рукаў — не ўцерці.

* * *

Тога лета —
не здужаць.
Поплаў прыцемкам
тужыць
пра твой роспачны ўздых.
Слова стала
слязою,
што зязюля вясною
пралівае,
як кружыць
каля гнёздаў
чужых.

## КАСТРЫЧНІК

Зыркае мяцеліцы
полымя згасае.
Цуду больш не верыцца,
мроі атрасаю.

Чорнае кустоўе
ўсцяж сівых гасцінцаў.
Бацькава выслоўе:
«Суму не маліцца».

## ПАКРОВЫ

Як па першаму колу
я ішла тваім ценем,
апускаліся долу
думы й клаліся семем.

А па колу другому —
павадыркай дзіцячай
і адзінай аховай
летуценняў юначых.

Новай кропкай адліку —
верасовае вочка,
а пражытаму выкуп
паднясу гэтай ночкай.

Спраўлю ўбор на Пакровы
спрэс ад колераў мая,
Леты выклік суровы
без развагі прымаю.

## КАНЕЦ ВОСЕНІ

Першы снег на гаўбцы,
зацвітае нарэшце каляднік,
міжгародні званок супачыў —
засынае заснежаны здраднік.

Тонкі келіх бяру,
наліваю забытыя трункі,
як святое прычасце, іх п'ю
і выходжу на свет з пастарунку.

Дуйка вэлюмы ўе,
апранае ўсё места нявестай,
праз бялюткія ўборы яе
мне ў чырвоным ісці зноўку ўсцешна.

## АСТАТНІ РАМАНС

Не пішацца, не любіцца
мне з паняю Самотай.
Не пішацца, не любіцца,
а ў келіху — маркота.

Я вып'ю ўсю да дна адна
паўнютку тую чару.
Ў ёй смак расстайнага віна
і пыркі даўніх мараў.

Распеніцца, расплешчацца
напой астатняй стрэчы.
І вось тады адпрэчвацца
я буду ад пустэчы.

Малітву спраўлю кроплям чар,
што высахлі ў няволі.
Усмешку прышпілю на твар,
скажу тузе: даволі.

Замружыцца, закружыцца
люстэрка сіняй поўняй.
Астудзіцца, адпудзіцца
і знікне спеў раптоўны.

І стане ясна ўсё, як дзень, —
самота не мінецца.
Душу маю акрые цень
і пасткаю замкнецца.



Не пішуцца вершы. Мо словаў бракуе?
А мо мае думкі — не ў ладзе з душой?
Ці ўсё, што займела на гэтым вяку я,
у несамавіты скруціла сувой?
Ці так, ці інакш, але плёскатам гукаў
не будзіць мяне заапоўначны госць,
самотна яму ў цішыні гэтай гулкай,
няўсцешаны ўжо адляцеў да кагось.



... ў вашых грубых насмешках,
перашэптах крывых
(ужо й гэту на вершык
пацягнула, як тых)
я баюся: не стане
сілы і пекнаты —
у аголеным стане
праз асот —
да святынь...

## КАЛЯДНІК

Парою той, як сее сцюжа
зярняты холаду між нас,
сумётам стаў мой лепшы дружа,
а быў цяпельцам доўгі час.

Жыву ільдзінкаю скалелай
пад тоўстым покрывам ілжы.
Каляднік, квет мой незнямелы,
адзіны верна мне служыў.



Зіма.
Шчытных штораў узмах:
патушу далягляд
агнявой вечарніцы
і твой палкі пагляд.
На замок — аканіцы.

Мілы прывід плыве,
завіруха азвецца,
гнуткі стан абаўе,
растае на дасвецці.
Зноў рэальнасці птах —
зіма.



... як у фільмах Таркоўскага,
бэжава ўзлётваюць шторы,
і паненка самотная
плаўна хаваецца ў іх,
міт знікання яе
хваляй новай ядваб не паўторыць,
дубль-кадр не ўдае да натуры,
дый вецер аціх...
над прачыненай форткай,
як восеньскі поплаў астылы,
раўналеглай напругаю
ветразі сіляць уздых —
прывыкаю да роўнядзі лёсу,
як мора да штылю,
развіхурыць зноў штормам яго,
а не бураю ў шклянцы вады...



* * *

Вячорні час.
Шасціць ачахлым лісцем
заспетая марозам без пары
акацыя,
ці то шукае выйсця
вятрыска,
замысліўшы із горада прарыў.

Не ўхойдаў днём
напругу на асклізлых сценах,
як потырчкі ішоў цераз дамы,
куляўся
цераз коміны мартэнаў,
пагардліва не зважыўшы на дым.
Не раздрабніў
мацунак на мільярды
лагодных калідорных скразнякоў...

Вось так і я:
не крою з мілі ярды,
Птушыны Шлях
каб плыў —
бы ў жылах
кроў.

## СТРОФЫ

1

яшчэ зімы працяглае дыханне
ў твае абдоймы гоніць ледзяшом,
але вяшчун душы маёй адхланне
празумкаў маладзенькім капяжом

2

першы дождж пасля бруду вясновага,
як збавенне, страчаю цябе,
спалашчы мае будні зімовыя,
змый дашчэнту прыхільнасць жальбе

3

твае словы, як дыяменты
на зажвіраным дзірване,
прывячаю за кампліменты
зноў рассыпаныя — не мне

**4**

са слоў тваіх стаўку́ надвечар ка́шу
і буду есці ноччу ў цішыні,
а раніцай зап'ю ўсё квартай квасу,
пракіслым ад салодкае хлусні

**5**

ўсе скарбонкі мае —
валадарству другое,
і ля брамы твае
я — з жабрацкай рукою

**6**

твая натомленая ўсмешка
цвярозіць мройны небасхіл,
маё прызнанне — для цябе пацешкі
і хорам мой — твой стылы схім

**7**

маё шчасце радзілася каля Мінскага мора,
гадавалася ў лузе пры Заслаўскай градзе,
маё шчасце ўтапілася ў Браслаўскіх азёрах,
скамянела ляжыць у глыбокай вадзе

**8**

сцерлася, змылася, прапаласкалася,
белай, да мёртвага, стала душа,
і каб успомніць, як там пяялася,
многа забыцца патрэбна спярша

**9**

спелым яблыкам позняга лета
ў каляі маё згасне святло,
дай, Гасподзь, мне зямельку сагрэту
босых ножак унука цяплом

**10**

бягу, прывечваю ўжо ранне,
гаркота выпіта да дна,
і ў люстры ўсмешка ўжо відна,
а за таго, хто быў каханы,
з кім побач іншая — адна,
я памалюся ў светлым храме,
які ствару сабе сама

## 11

адзіны міт, ці доўгае жыццё?
Якою меркаю мне гэту страту мераць,
калі слязу ўжо хтосьці іншы ўцёр
і іншая спявае ўмільна лера

## 12

пачуцці заблытваю спешна,
мяняю сяброў і пярсцёнкі,
што ўчора здавалася смешным,
сягоння — няўсцешлівай болькай

## 13

Маці Марыя,
літасцю Божай
дай мне не ўпасці
ў нізкі адчай,
меркаю поўнай
спраў Тваіх гожых
мой каляіністы
шлях
прыкмячай!..

# КАЛЕНДАГРАФІКА САМОТЫ

***снежань***

закунежаны жомчугам дзень
да жалобы жадлівая ноч
улагоджаны шэранню дзень
раз’ятраная змовамі ноч
пажаваны назоламі дзень
у знявазе звычайная ноч

***студзень***

штодзень
устыла гайдацца
галінам
атуленым ветрам
і
не ведаць
што сонца
ўжо загавела
да новага
колазвароту

***люты***

ледзяшы недаверу
спадаюць на дол
падгінаюцца ногі

ад мройнай гаворкі
захінаюць сняжынкі
вакенка радном
ды яго прабівае
рог месяца тонкі
пагайдацца на ім
паддае мне ахвоты
пэўна
ў тым і лякоба
ад лютай сумоты

***сакавік***

саў-гік
самлела
гурба ля вакна
на сонцагрэі
спіць пад бомы
мільярдаў знічак
воднага сяйва
што з неба ў дол
вяртае Жыве
код замовы
а да мяне
маё адхланне
згубіла Шлях
Птушыны
на світанні

***красавік***

крапіўнік кратае
круглявую віньетку
на каляровай
супервокладцы альбома
падбел з'явіўся
на прагалах неўпрыкметку
пад домам
красуе век
крапіўны куст
прыдомак
а ў доме
за трухлай бэлькай
сумеўся хват-матуз
самотных
сябар рэдкі

***травень***

на Траецкай гары
трапяткая лістота
і ў нататніку аркуш
трапечацца так
што радок да радка
падбягае ахвотна
не трапляючы ў такт
слё-
    за-
        па-
            ду

### *чэрвень*

сяджу
ў чырвападобным фатэлі
і любуюся
на свой
чырвонадрэвавы стол
які ён у мяне чараўнік
цэлы месяц
не пакідае
ніводнай паперчыны
перад вачыма

### *ліпень*

аловак
на раскрыленай кніжцы
не павяртай да мяне
сваю гойструю дзюбку
а то паляціш
на любадайную пасцель
што чакае
сваёй вогненнай долі
на аркушы
каміновага споду

***жнівень***

жорны
пацяжэлага сонца
ўжо трэці раз
знівелявалі
маё журботнае жытло
а самазадаволеная асадка
яшчэ не насядзелася
ў сваёй
самвыдатаўскай
схованцы

***верасень***

сухі чаўнок
снуе паспешліва
скарочаныя дні ў дарогу
да поля
саду
лесу
й лёхаў
старога сквапнага балота
і мой гаўбец
цяжарны змесцівам
якое з намі
спусціцца патроху
ў сыры капец

### *кастрычнік*

адчыняю шырока форткі
напускаю святла ў пакоі
будзе цемень на вулках порсткіх
а ў мяне
светлыні даволі
засланіцца
ад словаў жорсткіх

### *лістапад*

лісцік кволы
бабіна лета
падарыла мне
з мерзлага клёна
пакладу яго
як прыкмету
на зжаўцелы аркуш
ад лета
можа з лісціка
слабым праклёнам
капне сок
на нервы
паэта

## СЁННЯ

Васкоўкай згасіш дзённае святло,
яно даўно табе ўжо вочы рэжа
старанна стоеным ад тэрміну прамежкам,
што з учарашняга да заўтра стала тлом.

## ЗАЎТРА

Скуголіць голле.
Згук набіў аскому,
льняныя космы
коса сцеле сад
на сцежкі
павучыння
ці праменняў сонных,
якія ўтоптаны
застылай аблачынай
да ног маіх
мільёны год назад.

Садзіцца сонца.
Слодыч дыму з печы
казыча ноздры,
збочвае мой шлях
абрывам думак
ці нітоў начыння.

Упаплавелы ўзор
туды,
дзе Шлях Птушыны,
сягоннячы са мной
не выправіўся.

## ШЛЯХ

Цярплівасць ды пацеха
заместа чорнай роспачы,
да споведзі шлях —
пехам
і басаནож,
як кольвечы.

Насупленасць расхмурыцца,
растопіцца зняменне,
і плынь пятлістай вуліцай
памкне
да
Узнясення.

Куп'істыя калдобіны
спакойны рытм
не збэрсаюць,
вярнуся ў стан дародавы,
дзе жыць належыць
Кесару.

## НАБЛІЖЭННЕ

Іду.
Ужо няспешна.
Баюся,
што валошку ў прыдарожным пыле,
як подбегам,
то й не заўважу.
Ці на галоўку маладзёна-дзьмухаўца
ступлю,
не ўладжуся з рытмічнасцю дыхання.
А то ўзаб'еецца
з каляіны хліпкай
якісь пісклёнак мне пад след,
падэшва шорсткая
вібрацый сэрцайка яго
не ўчуе.
І гэтай страты, мабыць,
будзе досыць,
каб у хістанні шаляў
пэўнасці прыдбаць...

## АДЛЁТ

У прысадах прыхрамавых
знікла знаёмая ўсмешка,
а пагляд пахіснуўся
і ўсеўся на дальнюю хмару,
каб хвілінку спачыць,
і кірунак праверыць па зорах,
па зямлі вандраваўшы,
якіх прымяркоўваўся ён.

Хмара, горкіх дымоў наглытаўшыся,
гібка ліпела
на ўскраёх далягляду,
дзе лён-даўгунец
і эфір
бледнавокім блакітам
знітоўвалі ў кропку адліку
летазлікі без летаў,
без зім,
і без дзён
і начэй...



На мытні Госпад ціха запытае:
з якога скарбу твой пасаг?
І выправіць —
туды, дзе д'яблаў зграя,
ці возьме ўверх —
пад собскі дах.

* * *

Д’яблы ў анёльскіх убраннях
дрэмлюць у мройлівых позах,
дуйкаю ў кудзерках грае
доўгі прамень, нібы посах,
які не ўтрымаў Усявышні
якімсьці шалёным світаннем...

Такое банальнае выйсце —
акафістам кропка не стане.

* * *

Старасвецкая пастараль...

Сцеражы мяне,
Божа,
ад сонмаў сцухмоленых зыкаў.

Аўры
пругкая скругласць
замкнутасці ў Рай,
захавай бездарожжа
млявым згукам у край,
дзе вяселле і скрушнасць
змяняюцца месцамі звыкла.

## ЖАЛОБА

Раней я любіла чорныя строі,
яны прамяніліся ў зорнай патолі
агатавай плыні люстэрка красуні.
Схавалі агат...
ў чорным больш —
не пасуе...

# ПАНІХІДА

Сорак дзён.
Душа адляцела.
Значыць,
словам нязграбным
ужо не параніцца.
Срэбнавокі анёл
да Божай пасцелі
лепіць лапік ядвабу —
зыначыць
змярканне
на раніцу...

## ЛІТАСЦЬ

Маё няшчасце сталася
Тваёй
Святою
Літасцю:
над аналоем стараста
вянец,
як птушку,
выпусціў...

# АПОШНІ КЛОПАТ

Да Вялікадня вокны праясню,
і фіранкі сфальбую,
ды нават
частунак згатую заўчасна.
Ты прыйдзеш,
а я ў доме
— явай,
цябе прывячаю
— з пачасся.

* * *

Нараджаная на заходзе дня,
на ўсходзе сплю
і ў поўдзень не спяшаю
вяршыць свой кон.
Мяжа даўно віднa,
але заход найперш перажагнаю,
ступлю ў сутонне,
і Сусвет
мой цень у Вечнасць
будзе вечна гнаць.

## ТРОЙЦА

### I

А ведаеце,
згук звяготнай думкі згінуў,
і памяць праяснела галявінай
на жухлым снезе жаху небыцця.
Яго праявы прагна
паўдзённасць ганьбіць.

На загуменні відмецца адрына,
за ёю па жытох цячэ сцяжына
пад горку.
Там бярэзнік горбам,
нібы ручнік па рэшаце,
а ў ім куцця
з прынадаў жабраковай торбы.
Святло бярэзін з горкі
святочнасць тушыць.

І выплывае здушаны гадамі,
выразны сон:
лілеі я радамі
на поплаве садзіла за гумном,
завеі гнеў раскошна йдзе кругом,
у спляжаны дыван ператварае ранак,
з пялёсткаў мешанку
гатуе на сняданак,
расталым лёдам смагу гоніць.

Ды цёплы прыпек водарам аладкаў
з-пад коўдры выштурхоўвае
і сном-загадкай
з бабуляй падзяліцца патаемна
запрошвае
і ў сад зірнуць,
дзе поплаў белапенны
працягваў трызніцца,
хоць сон цьмянее.

Паўдзённы промень порстка ясніць вочы,
парэчак куст пры плоце вераб'ям шапоча
пра сакавітасць спелых гронак чадных
ці пра паненку вабную ў ядвабе.

II

Запозненая Тройца.
Прыгад аб ёй даўно ўжо цягне ў нетры
схаваных таямніц у глінішчы,
дзе Петра
прыстанак потым адмыслова збудаваў.
Няўжо мярнічы іншых пляцаў не даваў
збудоўшчыку ад тых грудкоў,
якія сны вярэдзяць?

А з глінішча рухавая сцяжына
ад прыставакі ўчэпістай, ажыны,
якая ліпла ўсім на пяты й на сукенкі,

бывала, што й на рыжыя кудзёркі,
уцёк наладжвала,
на поўнач бегла.

На ёй мы ў стуканку ніколі не гулялі,
і краскі нас не зманьвалі ў прагалы
палеткаў злеглых.
Бярэзнік ценем працінаў,
здань велічэзная ўставала проці нас.

III

Запозненая Тройца.
Траістасць маю ў хаце.
Музы́кам папярэдне кожны плаціць.
Трохколернасць лямоўкі на сукенцы.
Наўмысна зашчапка сагнута на вакенцы.
Яна не зарыпоча,
калі мяне абдыме ноч.

Бабуліна з вясёлкаю спадніца
пратэсту не дазволіла радзіцца,
не дачакаўся беспрытульны ровар,
сцяжына-прорва
мяне зглынула.
Плынь фалдаў супадала з плынню
ў жыце,
рытмічнасць руху задавала імя —
Віця.

Вось плот.
Прыпынак.
Набуваем шнураванкі-чаравікі.
Дагэтуль босыя,
каб не расіць абновы:
ад Юр'я завядзёнка да Пакроваў.
Дакладныя пра непагадзь разлікі
ў календары
адведкаў сына.

А ведаеце,
сын на горцы нас і не чакаў.
На горцы той было ля дзеда месца
яе самой,
магчыма, і дачка
захоча легчы поруч
ці ўнучкі пажадаюць.
На роздум часу не стае
яшчэ ў дзяўчаткаў,
але даўно казённая пячатка
прызначыла Варшаўскае прадмесце
у вечнасць сынаву.
Туды не данясці,
як стратнае ягнё,
радзінную пястунку — паўваргонь.

А на сваіх кладох — капліца.
Святло аднекуль будзе ў покуць ліцца,
васкоўка затрымціць,
дымок заўецца,

няясны голас быццам даляціць.
І Слова.
Нагорнай казанню яно завецца.

А на сваіх кладох — капліца.
Самотная бабуля памаліцца
схавалася,
акрытая ўся крамным,
ды не ў капліцу,
а пад камень.

О Божа!
Колькі маю родных ямін
на тых кладох!..

І ў кожнай з іх ахвярны пацясніцца
на поўнач,
мне каб месца даць цяплей
і з выглядам на вёску і капліцу,
бо ведае:
люблю ўжо сцежку ўзгорную,
канец якое —
смірна,
ладан
і ялей.

Ад гэтах пахаў невымоўна звабных
забудуся, як патыхае квет палын.
І вольная,
клады ў паўдзённай бачу светлыні,

у бок якіх
заўсёдна
жыта плынь.

Я — вольная.
З ядвабу
сукенку адфальбую
ісці святочна ў шлях —
трохкроць
Амін.

## КАРЦІНА

Сягоння,
Госпадзі,
як хораша ў маім куце!
Абвестка аб народзінах
Твайго Сыночка
ляціць на чысты аркуш
з пэндзля жывапісца,
якому роўных не абвесцяць
у наступным годзе.

Гляджу на белую паверхню палатна,
затканага барвовым прыскам
заходзін першай тысячы
агніскаў.

Яе ўжо ўзорвае,
прабіўшы закарэлы грунт,
Дзянніца,
пазначыўшы ў прыдзвінскай выспе
мясціну
Мудрасці.

Палітра ажывае.
З мальберта кроў цячэ
на спалатнелы ў жаху
аркуш
мой.

## ФІРАНКА

Надвор'е любімае:
дождж,
і разбойна
пахаджвае вецер па шасткім гаўбцы,
вялізнаю сліваю
лямпа ў гасцёўні
гайдаецца часта ў блішчастым кальцы.

Вужакаю пройма
ўпаўзае праз люфцік,
люляе ў фіранцы знячэўлены цень,
гаймідарным роем
уздыбвае ў муфце
шарсцінкі прабабінай футры
й ямчэй

клубочкам лягае
да ног халадэчых,
загортвае іх шчыльна-шчытна ў паўсцё,
якое, пергамент
рабіўшы, сашчэціў
мой продак.

Не знаў,
што былое асцё
тут рэаніміруе
рык і зляканне,

нанова ўзрасце недзе ў сотым стаўбцы
злічэння радзіннага,
роду хістання,
і з'явіцца ветрам
на шасткім гаўбцы.

Паперы бяскроўнае
стос загавораны
ўзвіхрыць і ў люфцік з сабой забярэ,
шчацiннаю коўдраю
ўкрые з галовамі
мяне і той цень,
што, як спадчынны грэх,
бязмоўнай пакораю
нікне ў гардзіне,
пагойдвае фалды карункавых руж...

Я гэтую ноч,
безумоўна, агораю,
ты толькі сцэнар
спадкаемны
не руш...

## БУКЕТ

Культурны слой сваёй кватэры
раскопваць мушу зрэдчас.
Мацярык,
аголены ад друзу і паперы,
выглядвае і просіць:
працяры.

Археалагічна спрытна і натхнёна
ратую
ад наступстваў зніклых дзён
стальніцу з прэсай,
вушка тэлефона,
патыліцу глядзельнай скрынкі,
з якое голас собскі даўна
не чуцён.

Затрымліваю рух на гнуткім збане:
красуе ў ім нясвіжскіх ніў букет,
а ў асяродку —
прынагоднае прыдбанне
з прыхрамавага гандлю —
зёлкаў трыялет.

Вярбы галінкі,
звітыя ядлоўцам адмыслова,
і вочкі несмяротніку
зноў жар

успамагальна шлюць
у той куток, дзе стыне
Слова
і выбаўлёных мукаў плечы гне
цяжар.

## РАМА

На маім старасвецкім буфеце,
у якім не радзінныя скарбы,
не гару парцаляны
й не чары
пасівелага срэбра трымаю,
ціха дрэмле авальная рама.

Ціха дрэмле авальная рама
на маім старасвецкім буфеце.
Набыла яе
не ў спадкаемства,
а ўсяго толькі коштам мізэрным
у адной мадэрновае дамы
і прыручвала доўга,
як котку,
адзічэлую ў хаце бязлюднай.

Адзічэлая ў хаце бязлюднай
ціха дрэмле акруглая рама.
А пад ёю прымервае
покуць
да сябе
нетутэйшая шафа,
неўзвычаена бачыць суседам
у шыкоўным акладзе
абра́з.
І памкненняў было,

мабыць, з дзесяць
шафу мець заміж шчэпак траскучых.

Адзічэлую ў хаце бязлюднай
шафу мець заміж шчэпак траскучых —
нешанотная гэта ахвота
засцялілася клопатам мерным
пра ўсталёўку ўсяго інтэр'еру
і ўзгадоўванне годнага ладу
паміж лініяў
соц-
і гот-
арту.

Паміж лініяў соц- і гот- арту
адзічэлая ў хаце бязлюднай
фінціклюшкай такой
малавартнай,
выкрунтасам
без рады-патрэбы,
прысмірэла стамлёнаю коткай
умасцілася цёмная рама.

Умасцілася цёмная рама
паміж лініяў соц- і гот- арту.
Незанятае поле начыннем
недарэчным здаецца
радзіне.

Кажуць:
купім сюды нацюрморт.

Ад карціны асобная рама —
хіба толькі
на дзіва
ці жарты.

Ад карціны асобная рама —
хіба толькі  на дзіва ці жарты? —
Колькі позіркаў стрэла
пытальных...

Пацярпіце крыху.
Можа, потым,
як самлее на шчоках круглявасць
і з грудзей сыдзе пругкасці сок
у слязіны скупыя нашчадкаў,
падміргне вам з авальнае рамы
старасвецкі
знаёмы
партрэт?

## І ЯШЧЭ АДЗІН БУКЕТ

Вялікі тыдзень
быў тады прад намі,
і Ён прыйшоў,
нязваны сярод званых,
але пазнаны,
бо ўжо Лазара ўваскрэсіў,
таму й віталі,
як найпершага із месій.
Кідалі пальмы з выгукам
«Гасанна»,
а як найбольшы знак пашаны,
хтось кінуў ружу —
сімвал Творцы Свету:
укол шыпа яе
ніхто не ўважыў
за прыкмету.

*Не я б'ю — вярба б'е.*

Музыка імшы
гучыць ад рання
і словам незнаёмым
слых
не раніць,
прастора цела
перапоўненая плынню,
якое

ува мне
ніхто
не спыніць.
Сягоння Вербніца,
Пальмовая нядзеля,
і сын галінкамі бліскучымі
надзеліць,
нерасквітнеўшыя дубцы
ўпрыгожым мы
пунсовымі й кармінавымі
ружамі.

*За тыдзень — Вялікдзень.*

Навошта ружы? —
запытаюць мяне людзі
і за парушанасць традыцыі
асудзяць.
Але я ведаю:
абраны ўжо з любоўю
той,
хто штодня іх
так ахвярна
выратоўваў.
Вось пройдзе тыдзень —
і гатовы
букет для церняў.
Мецілі
каго вы?

*Не я б'ю — вярба б'е.*



О, Дзева-Маці,
ў споведзі Табе
штодня правіны нескончоныя складаю
з усёй смяротнай схільнасцю жальбе
і грэхадайнай прагнасцю адчаю.

Прамоўлю зніклае,
а прышласць настае,
назаўтра зноў у сённяе вярнуся.
Напэўна, перамогу сатане
падсоблю здабываць і скрусе

чыню разлог,
не хочучы таго.
Вакол царквы, паніклая, кружляю,
жагнаюся з трымценнем і парог
пераступаю, споўненая жалю,

што ўсё не так,
як звечара ўяўлю,
збудзіўшы сонца,
дзеямі здзяйсняю,
не тым насеннем цёплую раллю
адорваю. Таму й заходу ззянне
не ўсцешвае,
бо блізкасць да Цябе,
о Вечная,

мяне пазбавіць сану
царыцы тых, хто сёння ля мяне.

А заўтра
з кім
перад
Табою
стану?..

* * *

Ні Грэцыю,
ні Рым
прыгадваю ў літаннях,
адно Ерусалім
скрозь Слова Іаана.
Канфесіяў прыгон
Хрыстос не запавечыў,
адзіны светач —
Ён —
і шлях адзіны
ў Вечнасць.

## ГАЛУБІНЫЯ ДУШЫ



## ПАГАНСКІ ШЛЮБ

## ВОСЕНЬСКАЕ РАЎНАДЗЕНСТВА

ПАМЕЖНЫ ЧАС



ПОКУЦЬ

**Аксак В.**

А 41 Капліца: Вершы. — Мн.: Маст. літ., 1994. — 111 с.

ISBN 5-340-01400-2.

Аматарам беларускай паэзіі ўжо знаёмая творчасць Валянціны Аксак па першым яе зборніку «Цвінтар». У новай кнізе паэтка заглыбляецца ў раней пазначаныя тэмы і вобразы, якія вядуць чытача да хрысціянскай ціхай малітвы, да касмічнай прыўзнятасці над дробязнасцю быцця ў прадчуванні непазбежнага лёсу. Матывы эстэтыкі розных культур у вершах Валянціны Аксак гарманічна спалучаюцца ў складаную мелодыю тонкай жаночай душы, якая, страціўшы юны радасны неспакой, набыла ўжо непераадольную трывогу.

А $\frac{8820600000-023}{М\ 302(03)-94}$ 31—94 ББК 84Бел7

Літаратурна-мастацкае выданне

**АКСАК ВАЛЯНЦІНА ІВАНАЎНА**

**Капліца**

**Вершы**

Рэдактар *К. Я. Жук*. Мастак *Г. Г. Малышаў*. Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава*. Тэхнічны рэдактар *Л. М. Шлапо*. Карэктар *Л. Т. Калюжная*.

Здадзена ў набор 25.08.93. Падп. да друку 09.12.93. Фармат 60×90[1]/32. Папера друк. кніжн. часоп. Гарнітура літаратурная. Ум. друк. арк. 3,5. Ум. фарб.-адб. 2,71. Ул.-выд. арк. 3,63. Тыраж 2200 экз. Зак. 850.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня «Перамога». 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.